## Беларусы ў Константынопале.

У Коўню прыехаў у службовых справах консул Беларускае Нар. Рэспублікі ў Константынопале палкоўнік Ермачэнка.

У Константынопале і на бліжэйшых астравох налічываецца цяпер 12.000 беларусаў-уцекачоў, вайсковых і цывільных, эвакуованых у Константынопаль пры адступленьні арміяў Дзенікіна і Врангеля.

Палажэньне уцекачоў (бежанцаў) вельмі крытычнае. Усі яны глыбока каяцца, што бралі вудзел ў авантурах белых генаралаў і хочуць усе свае сілы аддаць на адраджэньне свaей Бацькаўшчыны—Беларусі.

Узрост нацыянальнага самапачуцьця сярод беларускіх уцекачоў выклікаў да жыцця Беларускі Камітэт у Константынопале. Нацыянальныя Белар. К-ты арганізуюцца так сама і ў іншых гарадох і лагерах. У хуткім часе будзе склікан зьезд беларускіх камітэтаў. (Беларускае Прэсбюро у Коўні).

## Аб'еднаньне беларусаў у Бэрліне.

У бліжэйшым часе ў Бэрліне арганізуецца „Беларуская Грамада“, з мэтай аб'еднаньня прадстаўнікоў тутэйшай беларускай калёніі. Адбыўся сход ініцыятыўнай групы, на чале якой стаяць Шнеур і Сінгалоўскі. (Белпрэс у Коўні).

## Беларусь на Брусэльскай конфэрэнцыі.

У сувязі з Брусэльскай конфэрэнцыяй выехаў у Брусэль Міністар Юстыцыі Беларускае Народнае Рэспублікі, доктар А. Цвікевіч. (Белпрэс у Коўні).

## Культурная праца ў Савецкай Беларусі.

Па ўсей Беларусі адчыняецца цэлая сетка народных клюбаў. Беларускі Савецкі Урад асыгнаваў на справу нацыянальнае адукацыі краю 20 мільёнаў царскіх рублёў. (Белпрэс).

## Эстонска-Беларуская умова.

Савецкая Беларусь заключыла з Эстоніяй таможаны саюз. Таможаная умова будзе ратыфікавана законадаўчымі установамі абодвых краёў. (Белпрэс).

## Растрэл Остравумава.

У Вялікіх Луках растрэляны бальшавікамі беларускі дзеяч Остравумаў (Белпрэс).

## Горадзенцаў ізноў зачынілі.

(*Ад нашага карэспандэнта*).

ГОРАДНЯ, 14 красавіка 1921 г. Па загаду павятовага старасты зачынена філія Варшаўскага Беларускага Камітэта ў Горадні. Будынак запячатаны паліцыяй. Памяшчэньне бібліатэкі, кнігарні і чытальні таксама зачынена.

## Бяруцца за коопэратывы.

(*Ад нашага карэспандэнта*).

ГОРАДНЯ, 14 красавіка, 1921 г. Па распараджэньню павятовага старасты пачалася рэвізія коопэратываў (беларускіх) і коопэратыўнага саюза. Пакуль што не зачынілі.

## Нашто пабеларуску...

(*Ад нашага карэспандэнта*).

ГОРАДНЯ, 14 красавіка, 1921 г. Па загаду рэвіровага начальніка зачынены коопэратывы ў м. Цыдзіках і Луне; прычыны закрыцьця невядомы,—пэўна, за тое, што коопэратывы вялі рахунковасьць пабеларуску.

## Шкодная газэта.

(*Ад нашага карэспандэнта*).

ГОРАДНЯ, 14 красавіка, 1921 г. Ні камісіянэр Бас, ні падпісчыкі ніводнага нумару „Нашае Думкі“ не дастаюць. Дзе газэта падзяецца—невядома.

## Прызнаньне Літвы de jure.

У Ковенскія газэты паведамілі з Лёндана, што на конфэрэнцыі дыплёматаў у справе польска-літоўскіх адносін, дыплёматы згаджаюцца на прызнаньне Антантай Літоўскае дзяржавы de jure (па праву).

## Штодзенныя весткі.

*Пятніца*, 15 *красавіка* 1921 *г*.

— Забастоўка ў Англіі ня скончылася. Паведамляюць, што перагаворы з работнікамі наладжываюцца, дзеля таго што ўласьнікі капальняў (копяў) пайшлі на уступкі. У некаторых мясцовасьцях пачалася забастоўка чыгуншчыкаў.

— Міністар Сапега выяжджае ў Парыж і Рым у справе В. Сілезіі і Віленшчыны.

— „Совнарком“ выдаў дэкрэт аб вольным гандлю прадуктамі сялянскай гаспадаркі і фабрычнымі вырабамі.

— Англія згаджаецца памагчы Францыі ў яе вымаганьнях проці Нямеччыны.

— Польская народная Рада беларускіх зямель падала старшыні Польскага Сойму пратэст проці ратыфікацыі Рыжскага міру, па якому, як паказана ў гэтым пратэсьце, Польшча пакідае за сваімі мяжамі 1½ мільёны палякаў (?! Рэд.).

— Украінскі нацыян. Камітэт падаў пратэст проці Рыжскага міру ў Лігу Народаў.

— Памерла быўш. нямецкая імпэратрыца (жонка Вільгельма). Нямецкія монархісты гатуюць манyфэстацыі.

*Субота*, 16 *красавіка* 1921 *г*.

— Саюз работнікаў у Англіі пастанавіу пачаць 15 красавіка агульную забастоўку. Стварыўся забастовачны камітэт з трох асоб: Томаса, Вільяма і Сьміта.

— У Лёндане раптоўна памёр гэнарал Дзенікін.

*Нядзеля*, 17 *красавіка* 1921 *г*.

— Польскі Урад затрымаў выезд польскіх дэлегатаў у Брусэль з тэй прычыны, што Міністэрства загр. Спраў не дастала вестак ад старшыні конфэрэнцыі Гюманса аб згодзе Літоўскага Ураду на гэту конфэрэнцыю.

— Забастовачны камітэт аб'яднаных ангельскіх работнікоў абвесьціў, што забастоўка іх чыста эканамічная.

— Троцкі ў аднэй з сваіх прамоў заявіў, што Сав. Расея мае ў гэты час 150 тыс. афіцэраў, 94 дывізіі пяхоты і 28 дыв. коніцы.

— „Kur. Warsz.“ піша, што быццам у Варшаве, пражывае пад чужым іменьнем б. вял. князь Дзімітры Паўлавіч.

*Панядзелак*, 18 *красавіка* 1921 *г*.

— Абвешчаная агульная забастоўка ў Англіі не пачалася. Забастоўка горных работнікаў прадаўжаецца.

---

навіднага мяшчанскага каханьня! Я стаўся... у ваччу людзей... звычайным наложнікам багатае... бабы! Я стаўся пасьмешышчам усяго мясьцечка з цэлай ваколіцай! І да гэтага дайшоў я! Дык-жа не-е! яшчэ ня позна скінуць, ганебныя ланцугі! І я іх скіну!..

**Ліпская.** Ты нічога ня зробіш, ты толькі мучаешся сам і мучаеш мяне. Уй, Даня, я не магу... (Рынулася ніц на канапу).

**Мутэрка** (Ходзіць). Ты ня можаш вытрываць навет віду маіх мучэньняў, а я мушу іх цярпець. Ды я ведаю, што мне рабіць (Пачынае апранацца).

**Ліпская** (Скрозь сьлёзы). Ты думаеш, я не заўважыла, як ты адхіліўся ад мяне? Я заўважыла: так адхіляюцца ад старой... нялюбай бабы. Ну, што-ж, ідзі, куды хочаш,—усё роўна ты ня любіш мяне...

**Мутэрка**. Няпраўда! (Прыстоіў ля дзьвярэй).

**Ліпская**. Праўда! Праўда! Я цябе любіла ўзапрауды, а ты толькі прыкідаўся...

**Мутэрка** (Не расчўшы добра) Прадаваўся?! (Падскочыў і сьціснуў яе ад злосьці). Што? Ты адурэла? Я цябе задаўлю, як жабу!

(Чуцен званок).

**Ліпская**. Даніла Пахомавіч, пусьціце, уй, чуеце —званок. То можа, Соня.

**Мутэрка** (Пускаючы) Соня?

**Ліпская** (Абпраўляецца). Даня, я вас любіла зусім шчыра, і вы ня маеце права так плаціць за маё сэрца. Вы падумайце, і мы пагамонім апасьля. Цяпер трэба адчыніць дзьверы. Я не магу, я схаваюся ў свой пакой. Прашу вас адчыніць.

**Мутэрка**. Ты перш-наперш мне скажы: бярэш ты свае словы да сябе?

**Ліпская.** Да сябе?—Я бяру іх назад... Я адракаюся ад усяго, што сказала і што сама чула, абы-б толькі было ізноў усё ціха. Толькі мае сьлёзы яшчэ ня высахлі.

(Другі званок).

**Мутэрка.** Ну, даруй, Блюмачка! (Цалуець у руку). Уцякай, пайду адчыняць.

—·—

Яны расходзяцца ў розныя бакі. Чуваць галасы Соні і Мутэркі. Потым ён прыходзіць адзін і цераз троху адчыненыя дзьверы пытаецца: «Соня! Хочаце вы мець сягоньня лекцыю?» Чуцен адказ: «Чаму не?»— «Ну, то я чакаю».—«Добра, добра, Даніл Пахомаві ч я толькі распрануся і зачашу валасы. Я зараз!»

**Максім Гарэцкі.**

## Кавэрня.

Сьвятліца места з прэтэнсыяй шыку,
Пыскі паночкаў з мінай трыумфацкай,
У куце музыка... Шмат гулу і гіку,
Ахвота быць ў модзе псэўдаэлеганцкай,
Панічы змарнаваны цягнуцца ляніва,
Каб паказаці новыя лякеркі.
Пэрфум пудра скрывае пахі смурадлівы,
Прад ганкам возьнік кляне „за паперкі“.
Бліхтр, фасон і аблуда паказалі зубы,
На целе брудным ясьнее горэ чысты,
Пыха, заразумеласьць шчырацьць конскі губы,
Акуляры хаваюць вока ананісты.
Прэзэнтуюць мужчыны ясны... камізэлкі,
Галас і гоман расплывае рэхам,
Прыслужнікі ўсё новы разносяць бутэлькі,
З сваім цынічна-дуркавым усьмехам.
У атмосфэры чувацца рух змыслаў шалёных,
Дзе-не-дзе суне піяцкая морда,
Пад сталамі працуюць лыдкі «заручоных»,
Сарваны голас вые «sursum corda! *)»

Якіясь вусны фарбамі сьмяюцца,
Чыесь вочы варожаць роскаш за заплату,
Якіс «ён» са «сваёю» за нешта злуюцца,
Якісь шпіц праектуе танец дуркаваты.
Так бавіцца кавэрня... Гадзіна мінае...
Прад шыбамі галодны кляне усіх гнойна
Дым гусьцее... Шарота салён спавівае,
Сонна йграе музыка **tempo** „заўпакойна“.

*Казімір Сваяк.*

*) Узвысь сэрца.

